Hod VIII. Travień 1936 h. № 5.

# Шлях Моладзі
# Šlach Moładzi

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



V I L N I A

Biełaruskaja Drukarnia im. Franciška Skaryny — Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2.

ЗЬМЕСТ № 5:



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | J, j — Й, й. | R, r — P, p. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — C, c |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | W, w, V, v—В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Складка на 1 месяц 30 гр.; на 3 месяцы 50 гр., на паўгода— 1 зл., на год —2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—2

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Год VIII. | Вільня, Травень 1936 г. | №5 (91).

**Міхась Машара**

* * *

Бульбу даелі ўчора,
Хлеба амаль што няма —
Голад у хату Рыгора
Сяньня вясна прынясла.

Цэлую зімку у лесе,
Цяжка Рыгор працаваў.
Дарма! — адзін не парвесься;
Злоты ў дзень зарабляў.

Жонка суседзям кудзелю
Нітку за ніткай вяла.
Што зарабілі — праелі. —
Зімка цяжкою была.

Трэба цяпер пакланіцца
Пану, або кулаку. —
Цяжка на нашай зямліцы
Жыць без зямлі бедняку.

## БЯРОЗКА

Вясёлая бярозка,
Курчавая мая.
Зялёную прычоску
Дала табе вясна.

Стаіш ты на паляне,
Над быстраю ракой.
Жартуе вецер п'яны,
Гаворачы з табой.

Ўплятае табе ў косы
Шаўковы паясок.
Цалуе стан бялёсы
Вясковы пастушок.

А рана косы сонца
Гуляюць на лістку
І гладзяць па галоўцы,
Як родную дачку.

Сьвяткуючы дзяўчаты
Прыходзяць да цябе.
Здаецца, што сястра ты
Дзяўчатам і вясьне.

А колькі чараў месяц
Губляе над табой,
Як ты галінкі зьвесіш
Над соннаю вадой.

Ў вадзе там ёсьць русалка
За мроі прыгажэй..
З тваей красой вэсталкі
Ўсё-ж не зраўняцца ей.

6.V.36

# З дзейнасьці Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры

Як мы ўжо пісалі, 26.IV сёлета ў Вільні адбыўся звычайны гадавы сход Рады Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры. Галоўнымі пунктамі гэтага сходу былі: 1) справаздача з дзейнасьці Інстытуту за 1935 г. і 2) плян працы на будучыню, аб якіх ніжэй коратка паінфармуем нашых Пав. Чытачоў.

Вось-жа Інстытут, як ведама, ёсьць грамадзкай і культурна-навуковай арганізацыяй; апрача цэнтральных уладаў, мае аддзелы і гурткі на правінцыі. У справаздаўчым часе Цэнтральны Урад Інстытуту зьвярнуў асаблівую ўвагу на папаўненьне бібліятэкі Інстытуту. З гэтай мэтай быў наладжаны кнігаабмен з іншымі навуковымі арганізацыямі, між інш., з віленскім „Towarzystwem Przyjaciół Nauk“ і Беларускай Акадэміяй Навук у Менску. На жаль аднак, просьба, пададзеная ў сьнежні месяцы мін. году аб дазвол на атрымліваньне дзеля навуковых мэтаў выдавецтваў з Менску па сяньня астаецца без адказу. Апрача кніжак, зборы Інстытуту павялічыліся ў нумізматычным і археолёгічным аддзелах. З дзейнасьці Цэнтральнага Ураду Інстытуту на асаблівую ўвагу заслугоўваюць: жалобная акадэмія, прысьвячаная памяці М. Нікіфароўскага, беларускага этнографа, у 25 я ўгодкі ягонай сьмерці,ладжаная 30.XI.1935 г. і супольная з ТБШ школьная акцыя дамаганьня беларускай школы для беларускіх дзетак. — З выдавецтваў Інстытуту ў справаздаўчым годзе трэба падчыркнуць народны сьпеўнік „Za Baćkaŭščynu“ і кніжку „Прафэсар Бр. Эпімах-Шыпіла“. Апрача гэтага пры Інстытуце выходзіць літаратурна-навуковы квартальны часапіс „Калосьсе“ і коопэратыўна-гаспадарчы месячнік „Самапомач“. — Праца Інстытуту на вёсцы ў мінулым годзе, з прычыны перашкодаў ад Інстытуту незалежных, была агранічана. Так напр. у справаздаўчым годзе з чатырох, пададзеных да зарэестраваньня новых гурткоў БІГіК, адміністрацыйныя ўлады часова зарэестравалі толькі адзін адзіны гурток, каторы апошнім часам быў разьвязаны (в. Лядкі, Стаўпецкага пав.). У гэтым-жа годзе адміністрацыйныя ўлады зьліквідавалі стары гурток Інстытуту ў Іказьні, Браслаўскага пав. Паміма ўсяго, гурткі БІГіК ладзілі часта вечарыны, лекцыі, прадстаўленьні, вялі бібліятэкі і чытальні, а таксама пашыралі беларускае друкаванае слова.

Абгаварваючы плян працы на будучыню, сход Рады прыняў пастанову ажывіць выдавецтва, як адзіны спосаб прамаўляньня да мас; пасылаць у гурткі для чытаньня гатовыя рэфэраты з гісторыі і іншых галін веды; наладзіць карэспандэнцыйныя курсы; правесьці ў гэтым годзе школьную акцыю ў справе дамаганьня роднай школы; адсьвятка-

ваць увосені сёлета 10-я ўгодкі існаваньня Інстытуту, а такжа наладзіць жалобную акадэмію па заслужаным для беларускай культуры дзеячу, Вацлаве Ластоўскім, растраляным бальшавікамі.

Асабовы склад уладаў Інстытуту на 1936 г. астаўся той самы, што быў і ў мінулым годзе.

Канчаючы агляд дзейнасьці БІГіК за 1935 г. трэба сказаць, што агулам магчымасьці беларускае культурнае працы на вёсцы вельмі цяжкія. Ня гледзячы аднак на гэта, як мы ня раз ужо казалі, нам беларусам, асабліва-ж моладзі, трэба яе праводзіць і свайго дабівацца. Трэба закладаць гурткі БІГіК і іншых беларускіх арганізацыяў, праводзіць школьную акцыю, самаадукацыю, ладзіць беларускія лекцыі і прадстаўленьні, помнячы заўсёды, што праз культурную беларускую працу зможам мы напэўна палепшыць свой быт і асягнуць намечаную мэту — нашыя найвышэйшыя беларускія ідэалы.

Я—к.

## Усход сонца

Ноч зьнікае —
Рассьвятляе
Цемру сонца ўсход,
Над ракою
Зьвісла ймглою
Пара сонных вод.
Луг ўкрывае
І зіяе
Роска серабром

Дагарае,
Пагасае
Зорка за сялом.
Час свой знае
Выплывае
Сонца з паза гор.
Дзень вітае
І сьпявае
Раньніх птушак хор.

Абуджае,
Ажыўляе
Поле, лес і луг.
Сонца грэе:
Весялее
Гук жывы ўвакруг.

А. Жук.

## Viasnoj...

Jak miła rańniaju viasnoju
Pajści u les i pastajać,
Pasłuchać cichaj pieśni chvojaŭ
Što ab viakoch daŭnych šumiać

I cicha šepčuć, jak viałosia
U dni minuŭščyny hłuchoj,
Jak našym pradziedam žyłosia
Ŭ krainie rodnieńkaj svajoj.

Šumić bor, što znoŭ budzie hetak,
Šumić, što volna budziem žyć,
Šumić pra kryŭdu svaich dzietak,
Pra volu kraju jon šumić.

Z bakoŭ, kusty staroźaj stali
I šepčuć-hutarać z vadoj,
Brujać u ich račnyja chvali,
Niasuć im viestački z saboj.

A tam za rečkaj, tam la łuhu,
Dzie pačynajecca sadok,
Staić prybrany, jak da šlubu,
Dreŭ zielaniejučych radok.

Zina Kienčanka.

# Try kulturnyja drukarskija jubilei

## 500-ja ŭhodki vynachadu druku — 450-ja ŭhodki naradžeńnia dr. Franciška Skaryny — 10-ja ŭhodki isnavańnia Biełaruskaj Drukarni im. Fr. Skaryny ŭ Vilni.

Hadoŭ 500 i bolš tamu nazad ludzi, kali chacieli ŭpamiatnić i pašyryć svaje dumki, abo jakija-niebudź dakumanty, spačatku rysavali ich na cehłach, doškach, a paśla, navučyŭšysia pisać, zapisvali. Rabili heta adnak nie adrazu na papiery, jakuju paśla tolki navučylisia rabić, a na skurach, na h. zv. papirusach i h. d. Papiera ŭ Eŭropie pajaviłasia ŭ VI vieku pa Naradž. Chrysta. U hetyja-ž časy i paźniej štuku pisania viedali pieravažna manachi (zakońniki) i jany pisali roznyja dakumanty, a časta i vialikija knihi. Jasna, što dla napisańnia i vydańnia vialikaj knihi, dy jšče ŭ bolšaj kolkaści ekzemplaraŭ, treba było i mnoha ludziej, i mnoha času. Pry tym, pamima najvialikšych starańniaŭ, sprava heta pasoŭvałasia marudna. Zusim źmianilisia mahčymaści vydańnia knihi, kali ŭ XV stahodździ, ŭ Niamieččynie, Johann Gensfleisch Gutenberg vydumaŭ drukarstva, pry pomačy katoraha majem my siańnia nadrukavanych mnostva roznych knih i časapisaŭ, choć ab sposabie paŭstavańnia ich časta čytačy hetych-ža knih i časapisaŭ nia majuć navat paniaćcia.

Peŭnaj, ćviordaj i točnaj daty paŭstańnia drukarstva navuka dasiul jašče badaj nie ŭstanaviła. Dadumyvajucca adnak usie i ličać, što drukarstva vydumaŭ Gutenberg u 1436 hodzie i z hetaj pryčyny sioleta ŭvieś kulturny śviet śviatkuje 500-ja ŭhodki isnavańnia drukarstva.

Ab žyćci samoha Gutenberga viestak jość tak-ža nia nadta mnoha. Na padstavie adnak tych dakumantaŭ, jakija jość, vučonyja dakazyvajuć, što Johann Gensfleisch Gutenberg byŭ synam bahataj siamji, radziŭsia ŭ 1400 h. u niamieckim mieście Mainz. Kala 1420 h., z pryčyny roznych miascovych zabureńniaŭ, pakinuŭ jon svajo miesta, a ŭ 1434 h. apynuŭsia ŭ Strasburgu, dzie ŭ 1436 h. pačaŭ rabić drukarskija litary. Spačatku Gutenberg vyrazaŭ pisanyja litary na drevie, šmaravaŭ ich farbaj, potym nakładaŭ na ich papieru i rabiŭ adbitki. Paśla-ž pačaŭ adlivać metalovyja litary. Heta ŭsio patrebavała mnoha hrošaŭ, dyk Gutenberg uvachodziŭ u supałku z inšymi ludźmi, z jakimi paśla sudziŭsia i mieŭ mnoha kłopataŭ. Byŭ jon tak-ža sudžany za samuju rabotu drukarskich litar, katoryja ŭ tahočasnych varunkach zmušany byŭ rabić tajkom. Ale dziakujučy henym sudom i ichnim aktam, vučonyja mahli ŭstanavić niekatoryja danyja z jaho žyćcia.

Pieršy vialiki gutenberg'aŭski druk, tak zv., 42-radkovaja biblija (nazyvałasia jana hetak ad kolkaści radkoŭ na bačynie) vyjšła ŭ časie supałki Gutenberga z J. Fust'am u Mainz'y —

1450—1455, — poŭnaściu-ž hatovaja jana była pierad 15 žniŭnia 1456 h. Kniha heta mieła 641 kartu i była vydana, jak na toj čas, vielmi pryhoža.

U 1462 h. m. Mainz apynułasia ŭ ahni vajny, z pryčyny jakoje ŭsia drukarskaja praca była tam ustrymana, a drukary raźbiehlisia, raznosiačy svaju tajnicu pa susiednich miestach i krajoch, dzie pačali tak-ža zakładać novyja drukarni. Ad taho času drukarstva pačało što-raz bolš pašyracca i raźvivacca. I ŭžo ŭ 1465 h. była drukarnia kala Rymu (Italija), u 1470—



Johann Gutenberg.

u Paryžy (Francyja), u 1478 — u Ženevie i Prazie (Švajcaryja i Čechija), u 1480 — u Londynie (Anhlija), u 1489 — u Lisabonie (Partuhalija), u 1491 — u Krakavie (Polšč), u 1499 — u Madrydzie (Hišpanija), u 1525 — u Vilni, u 1564 — u Maskvie (Rasieja), u 1574 - u Lvovie i h. d.

Gutenberg, choć i byŭ vialikim čałaviekam, žyŭ u niedastatku. Pamior u studzieni 1468 h. Pachavali jaho ŭ Mainz'y.

Słava Gutenberga, jak pieršaha vynachodcy druku, krychu abciažana. A imienna: niekatoryja dakazvajuć, što kitajčyk Pi-Šengu ŭžo ŭ 11 stahodździ vydumaŭ sposab drukavańnia knižak litarami (šryftam-čcionkami), a pry pomačy dzieraŭlanych tabličak, na jakich byŭ vyrezvany tekst, drukavalisia knižki pa-

čynajučy ad 10 stahodździa; u Eŭropie-ž Laurens Janszoon Coster u Haarlem (Halandyja) vydumaŭ byccam sposab druku raniej ad Gutenberga.

Nia hledziečy na heta, Gutenberg ličycca ŭsio-ž pieršym vynachodcam druku. Sam-ža druk źjaŭlajecca adnym z najbolšych vynachadaŭ čałaviectva.

---

Na Biełaruś drukarstva prynios naš słaŭny doktar Francišak Skaryna, jaki radziŭsia ŭ Połacku ŭ 1486 h. i katoraha 450-ja ŭhodki naradžeńnia biełaruskaje hramadzianstva śviatkavała sioleta ŭ m-cy sakaviku.

Fr. Skaryna*) byŭ synam bahataha biełaruskaha mieščanina, katory zajmaŭsia handlem. Vučyŭsia słaŭny naš drukar śpiarša doma, a paśla ŭ 1504 h., dziakujučy znosinam Połacku z kulturnymi krajovymi i susiednimi centrami, majučy 18 h., vyjechaŭ dziela navuki ŭ Krakaŭ. Tam vučyŭsia jon humanistyčnych navuk i ŭ 1506 h. dastaŭ zvańnie bakałara filozofii. Nastupnyja 6 hadoŭ Fr. Skaryna prabyvaŭ dalej zahranicaj, studyjujučy filozofiju, medycynu j bahasłoŭje. U hetym času atrymaŭ jon, (dzie—bližej niaviedama), zvańnie doktara filozofii. U 1512 h. Skaryna znachodzicca ŭ Padui (Italija), dzie zdaje ekzamin na doktara medycyny.

U 1517—1519 h. Skaryna prabyvaje ŭ Prazie Českaj i tam pačynaje zajmacca drukarstvam, naładžvaje drukarniu, u jakoj drukuje „Psałtyr“ i 22 inšyja biblijskija knižki Staroha Zakonu, pierałožanyja im-ža — Skarynaj — na tahočasnuju biełaruskuju movu. Nazovy hetych knižak nastupnyja: 1) Kniha Iova, 2) Pritči Sołomonovy, 3) Kniha Priemudrosti Jisusa, Syna Sirachova, 4) Kniha Ekkleziasta, 5) Kniha Piesni Piesniej Sołomonovych, 6) Kniha Priemudrosti Sołomonovych, 7—10) Knihi Carstv, 11) Kniha Jisusa Navina, 12) Kniha Iudif, 13) Kniha Bytije, 14) Kniha Ischod, 15) Kniha Levit, 16) Kniha Čisł, 17) Kniha Vtorozakonije, 18) Kniha Ruf, 19) Kniha Sudiej Izrailevych, 20) Kniha Esfir, 21) Kniha Płač Jieriemija, 22) Kniha Proroka Daniiła.

Paśla vydańnia hetych knižak praca Skaryny ŭ Prazie pieraryvajecca i jon u 1525 h. źjaŭlajecca ŭ Vilniu, i tut naładžvaje drukarniu dziela dalejšaj svajej vydaviecka-drukarskaj pracy. U Vilni Skaryna ŭ 1525 h. vydaje „Apostał“ i „Małuju podorožnuju knižicu“. Mova hetych knižak tak-ža šmat u čym zbližana da tahočasnaj žyvoj biełaruskaj movy.

Na hetym vydavieckaja biełaruskaja praca Skaryny spyniajecca. Paśla Skaryna prabyvaje ŭ Kenigsbergu ŭ karala Albrechta, u Paznani i ŭznoŭ u Vilni. Pakidajučy ŭ 1530 h. Kenigsberg, Skaryna namoviŭ i zabraŭ z saboj niejkaha žyda

---

*) Pišučy hety artykuł ab Fr. Skarynie karystaŭsia danymi z referatu Ks. A. Stankieviča: „Dr. Fr. Skaryna i jaho kulturnaja praca“, čytanaha ŭ BIHiK u Vilni 1.III.1936 h. — J. N.

drukara. Z hetaha vidać, što Skaryna dumaŭ jašče pracavać na biełaruskaj vydavieckaj nivie, ale da hetaha ŭžo nie dajšło.

U tym-ža časie Skaryna ŭ Vilni zajmaŭ pasadu lekara i sakratara ŭ vilenskaha biskupa. Na praciahu svajho žyćcia Skaryna, padobna jak i Gutenberg, mieŭ vialikija hrašovyja kłopaty, sudziŭsia i pamior jak biadniak.

Praca Fr. Skaryny biazumoŭna vialikaja, zasłuha-ž jaho pierad usim u tym, što jon bibliju, jak najhałaŭniejšuju na toj čas krynicu aśviety, z carkoŭna-słavianskaj movy pierałažyŭ na movu biełaruskuju, dy vydajučy jaje drukam, zrabiŭ dastupnuju šyrejšym narodnym kruhom.



Francišak Skaryna.

Zrabiŭ heta Skaryna napeŭna pad upływam zahranicy, dzie budučy bačyŭ, jak niemcy, čechi i inšyja narody pierakładali bibliju z łacinskaj, niažyvoj movy, na movy narodnyja. Voś-ža Skaryna, zachapiŭšysia henaj pracaj, pačaŭ heta samaje rabić na rodnym biełaruskim hruncie.

Chronolohična biełaruskaja biblija Skaryny zajmaje treciaje miesca (pieršaje miesca naleža niamieckaj biblii, vydanaj u 1455 h., a druhoje českaj -- 1488 h.).

Značeńnie pracy dr. Fr. Skaryny dla Biełarusaŭ ahramadnaje, bo-ž Fr. Skaryna svaimi knižkami kinuŭ u biełaruskuju ziamlu ziernie biełaruskaj narodnaj kultury i ziernie lubovi da svajho kraju i narodu. Jon pieršy prystupiŭ da kulturnaj pracy, majučy na ŭvazie biełaruskija masy, i svaimi knižkami dałučyŭ Biełaruś da ahulna-eŭrapejskaj kultury. Fr. Skaryna daŭ

faktyčna Biełaruskamu Narodu padvaliny i asnovu pad biełaruski narodny dom, budovu katoraha viadziom siańnia i musim naležna zakončyć.

Franciš Skaryna — heta sapraŭdy vialiki i addany całaj dušoj svajmu narodu i Baćkaŭščynie syn, u ślady jakoha my, biełaruskaja moładź, pavinny jści, pravodziačy kulturnuju pracu, aśviačajučy i ŭśviedamlajučy svaich niaśviedamych bratoŭ, a tak-ža pracujučy nad uzbahačańniem biełaruskaj kultury.

---

Paśla ahulnaha jubileju drukarstva i jubileju pieršaha biełaruskaha drukara — Fr. Skaryny — nie małym biełaruskim jubilejem źjaŭlajecca na vilenskim biełaruskim hruncie — 10-ja ŭhodki isnavańnia Biełaruskaj Drukarni im. Franciška Skaryny ŭ Vilni. Drukarnia heta zasnavałasia ŭ 1926 h. i choć jość jana pryvatnaj ułasnaściaj, to adnak, dziakujučy ideovamu jaje nakiravańniu i pryznačeńniu, pryčyniłasia jana za čas svajho isnavańnia vielmi mnoha da raźvićcia biełaruskaha drukavanaha słova, a tak-ža ahułam da raźvićcia biełaruskaha adradženskaha ruchu. Drukarnia heta faktyčna źjaŭlajecca čysta kulturnaj i hramadzkaj biełaruskaj placoŭkaj. I dziakujučy isnavańniu henaj drukarni moža narmalna isnavać i vychodzić naš časapis „Šlach Moładzi". Bo ŭłaśniki drukarni, nia badučy interesavanymi ŭ matarjalnych zarabotkach, dazvalajuć vydaŭcom — drukarom — „Šlach Mł" biaspłatna karystacca drukarskimi pryładami pry vydavańni časapisu.

Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny pieražyvała ŭžo roznyja mamenty: byli časy i dobryja i horšyja. Spačatku pracavała ŭ joj tolki 2 čałavieki, paśla kolkaść heta ŭzrasła da 15, a paśla iznoŭ źmienšyłasia. Ciapier drukarnia znachodzicca na dobraj darozie ŭ svaim raźvićci i ŭ 10-ja ŭhodki jejnaha isnavańnia treba joj žadać, kab dalej pamysna raźvivałasia dla dabra biełaruskaje spravy.

J. N.

---

## Maja łodka

Šumić mora, hudzie,
Maja łodka idzie:
Chvali strašny latuć, —
Chočuć łodku hłynuć,
Ale ja nie bajusia —
Z usich strachaŭ śmiajusia.

Viecier mucić vadu —
Musić mnie na biadu?
I małanka i hrom...
Piarun palić ahniom; —
A ja znaju adno —
Dziaržu krepka styrno.

Płyvi, łodka, płyvi!
Žyćcio poŭna kryvi:
Uźniałasia vajna —
Mnie-ž daroha adna —
Uražu niemač łamać —
Svoj narod padyjmać.

Hej, marak, nie biaduj —
Tolki dobra styrnuj!
Viatruhi naciahni —
Pryjduć jasnyja dni:
I naš pryjdzie čarod —
Ŭstanie volny narod.

V. Advažny.

---

Андрэй Чэмер.

# На родным палетку [3)]

III.

Паволі кружачыся ляцяць сьняжынкі з бязьмежнага, засунутага цёмна-сінімі хмарамі, неба. Круціцца, круціцца сьнегавая зорачка, плаўнымі рухамі апускаецца ўсё ніжай і ніжай, аж урэшце замахнецца, падляціць угару і прыліпне да мяккае, белае, пухавое пасьцелі...

А за ёю наступныя сёстры-сьняжынкі, усё больш і больш; сыплюцца, сыплюцца, паволі, спакойна, бязупынна... І здаецца час перастае пасоўвацца наперад, сьвет зьмяняе свой воблік, усё існуючае западае ў павольныя думы драмоты...

І здаецца Алесі, што яе думкі злучаюцца са сьняжынкамі, плывуць па бязьмежных прасторах паветра й падаюць, абыймаюць пуховым дыванам маркотную, ціхую зямлю — бацькаўшчыну...

Уся злосьць і клапоты прападаюць, расплываюцца ў бязьмежных абшарах спакою-сусьвету, душу агартае шырокая хваля дабра, прастаты і справядлівасьці.

І толькі цёмнаю хмаркай насоўваецца ўспамін аб нечым дзіўным, незразумелым, дзікім, што здарылася на яе вачох у Зарэччы.

Мімаволі душа лунае ў далёкія часы дзяцінства, калі ў бядзе і горы трэба было цяжкім мазалём памагаць бацькам здабываць кусок хлеба, калі малая Алеся добра пазнала што такое праца, голад і недастатак.

Пасьля прыйшла вайна, бальшавікі, палякі...

Вайна кончылася. Алесю аддалі ў школу, але з 6-й клясы гімназіі бацька забраў яе да хаты, грошай ня было на навуку. Паплакала, паплакала, ды мусіла пагадзіцца са сваею доляю.

Дома занялася самаадукацыяй; работай на гаспадарцы і... працай грамадзкай.

Мясцовы кіраўнік школы (польскай) запрапанаваў ёй паехаць на курс фізычнага ўзгадаваньня, а таксама гаспадарчы курс „Kółek rolničych“, і ад таго часу пачала працаваць як інструктарка ў розных „kółkach.“

Маючы сякі-такі заработак, памагала бацькам і сама лепей чулася. Паволі пачала прывыкаць да палякоў і пачувацца так, як паміж сваіх. Толькі нейкая нявыразная туга часам быццам падказвала, што магло быць зусім іначай...

Хадзіла на вечарыны „Кола млодзежы,“ „Стшэльца“ і г. д. Але вось ад пэўнага часу спасьцерагала варожасьць вясковых хлапцоў і гадунцоў беларускай гімназіі да арганізацыяў, у якіх яна працавала, і да яе самой.

Сьпярша думала, што гэта нейкая дурная фанабэрыя, але некалькі разоў пагаварыла з беларускімі інтэлігэнтамі і ад таго часу ўсё больш і больш пачала задумвацца над прычынамі і істотай беларускага руху.

У хаце бацькі хоць гаварылі пабеларуску, але рады былі што Алеся ўмее „папанску“ і заўсёды папіхалі яе да палякоў, бачачы там матар'яльныя карысьці.

А Алеся й ня думала пра гэтыя справы. Рабіла так, як ёй казалі бацькі і вучылі ў польскай шлоле.

Але вось апошні выпадак змусіў яе глыбей задумацца.

Зарэцкія хлапцы ніколі ня лічыліся якімісь хуліганамі ці забіякамі. Наадварот, — былі знаныя як найбольш спакойныя й разумныя. Дык чаму-ж стральцы на іх нападалі?...

Нейкі мімавольны гнеў і бунт закіпелі ў душы Алесі... Прыемны і мілы настрой згінуў бяз сьледу...

Алеся пастанавіла дабіцца праўды!...

* * *

Ад нападу „Стшэльцаў“ на народны дом мінула добрага паўгоду. Як Васіль не стараўся, — нідзе ніякай парады не знайшоў. Паліцыя й слухаць не хацела, парадзіла падаць справу ў суд. На суд грошай ня было, ды й... так што заглушаючы балючую крыўду, прыйшлося на гэты раз махнуць рукою.

Раны загаіліся, боль усьцішыўся. Толькі пачуцьцё страшэннай крыўды глыбака запала ў сэрцы.

Аднойчы вечарам, падхадзіўшыся, хлопцы сабраліся на прызьбе каля Васілёвай хаты ды гутарылі пра розныя бягучыя справы, пра палажэньне беларускіх сялян у Б.С.С.Р, у Латвіі і ў Польшчы.

Васіль расказваў, што дзеецца ў Кітаі, у Амэрыцы; пра зямельную рэформу ў Літве, пра калгасы ў СССР.

Пры цікавай гутарцы час ляцеў стралою і не агледзіліся, як надыйшла поўнач.

Пойдзем, пойдзем хлопцы, вунь ужо сьвітае! — жартаваў Андрэй, паказваючы на ўсход.

— Андрэй ня дурэй!.. — засьмяяўся Пятро Мацеяў, выходзячы на вуліцу.

Але на ўсходзе неба сапраўды заружавела; сьпярша лёганька, а пасьля больш і больш...

— Хлопцы! ў Сялішчох пажар!.. трывожна адазваўся Сымон.

— Ды не! Мусіць начлежнікі агонь кладуць... Выдумаў чорт знае што!...

— Але, агонь!... Вунь, паглядзі!

Чырвонае зарава шырака разьлілося па небе, а над самай зямлёю можна было разгледзіць клубы іскраў і дыму.

— Бяжэм, хлопцы, ратаваць! — гукнуў Антось;- няма чаго ўглядацца!...

Вёска Сялішчы ляжала вёрст 2 ад Зарэчча. Але ледзь зарэчынцы выйшлі на грудок, як спасьцераглі, што гэта ня вёска гарыць, а хутар Міхася Драча, бацькі Алесі.

— Вось табе на! Астанецца гімназістка без пасагу! — задыхаўшыся прабаваў жартаваць Сёмка.

— Сароміўся-б, Сымон, насьмяхацца з чужое бяды!.. абуркнуў брата Васіль.

Каля пажару ўжо сабралася таўпа з Сялішчоў. Гарэла гумно і хата.

Доўгія, крывава жоўтыя языкі шыбалі над будынкамі, лізалі недагарэўшае дрэва гумна і агарталі хату. Навокал бегала з распушчанымі валасамі маці Алесі Ганна, плачучы і галосячы.

Міхася ня было дома.

— Людцы мае,—гукала Ганна,—ратуйце дзіцятка маё!

— Ах, Божачка! Пусьцеце мяне! Або яе вынесу, або й сама згіну!...

Але людзі адцягнулі кабеціну, угаварваючы і пацяшаючы, як мага...

Бо дзьверы хаты ўжо даўно зьніклі ў полымі, а з вокнаў перліся клубы дыму і чырвоныя языкі агню.

— Што-ж вы, людзі, стаіцё, як авечкі?! Ратаваць трэба! — энэргічна адазваўся Васіль.

— Дык ідзі, ратуй! І сам там астанешся!...

— Ого, адважны знашоўся!...

Адна сьцяна хаты йшчэ ня зусім была абнята агнём. Было там калісь акно, але здаўных Міхась залажыў яго дрэвам і забіў аполкамі.

— Крук і сакеру! — гукнуў Васіль.

Замахнуўся раз, два, — і хоць полымя шугала аж да твару, іскры пражылі, як кіпяток, — хутка адарваў аполкі і выбіў канчары дзерава, засланяючыя ўваход.

Накінуў мокры кафтан на голаў і кінуўся ў прабітую дзюру.

На некалькі хвілін грамада замерла ў жудасным чаканьні! Надгарэўшая хата ледзь-ледзь трымалася...

Урэшце сярод дыму прабітага акна паказалася фігура Васіля з Алесяю на руках. Захістаўся і быў-бы паваліўся, каб людзі не падхапілі і ня выцягнулі на сьвежае паветра.

Валасы на ім абгарэлі, вопратка курэла, скура чырванела сільнымі апёкамі.

Не пасьпелі зьняць з Васіля гарэўшае вопраткі, як з гукам і трэскам, выкідаючы пад неба хмары дыму і іскраў, завалілася хата...

*(д. б.)*

## Вясна

Прайшлі зімы даўгія сьцюжы,
І ўжо халодны вецер зьнік.
„Прыйшла вясна да нас чакана“
— Прынёс ён гэты мілы зык.

Бурчыць вада, вясёла льецца.
І тае сьнег у міг адзін.
Вясёлы сьпеў з нябёс нясецца
І ўторыць грукам яму млін.

І птушкі ўсе лятуць да нас,
З далёкай цёплай стараны
На свой пакінуты папас —
І льецца сьпеў іх з вышыні.

Сьпявайце птушачкі каханы
На ўвесь наш бедны „дзікі“ край.
Няхай наш цёмны люд загнаны
Пачуе кліч «к жыцьцю ўставай!»

Дык жыва ўсе на сустраканьне,
Вясны красуні маладой —
Няхай загіне зьневажаньне
І сьмерці цяжкі перабой.

**З. К.**

## Прыпрагай

Мой каштан цягнуць ня можа,
Твой таксама заслабы,
Імі мы дзірван ня зможам
Падгатовіць да сяўбы.

Ад людзей каб не астацца —
Дай у пару запражом,
І ня будуць з нас сьмяяцца;
Мы дзірван тады ўзаром.

Пара, брат, ляпей пацягне,
Лепш рассыплецца зямля,
І такое поле стане —
Будзеш рад і ты і я!

Зацьвіце на ім збажжына —
Жыта, бульба і авёс;
Будзе голаду канчына,
Не спалохае мароз.

Малака больш дасьць карова,
Больш каніна павязе —
Словам, будзе ўсё здарова,
Будзе, брат, канец бядзе.

Прыпрагай хутчэй каніну,
Ды у прыпражку араць.
Годзі сам сябе й скаціну
Аж да сьмерці забіваць.

**Міхась Ліст.**

## Няма дабра

Няма дабра на сьвеце
І праўды ў ім няма —
Куды ні паглядзеце,
Адно подласьць-гідзь сама.

Адны другіх баяцца,
Адны другіх цкуюць,
Са згодаю пазнацца
Нікому не даюць.

Усяк ня любіць праўды,
А толькі сам сябе,
І браць чужое рады
І ехаць на табе.

Брат брата ненавідзіць,
Зірне — і гнеў кіпіць
І рад хоць чым пакрыўдзіць
Дашкеліць і ўкусіць.

Аднак дабро ня згіне
І стане нас крапіць,
Як чалавек пакіне
Братоў сваіх губіць.

**Пятрусь Граніт.**

## Z KRAJU

— **Abytacyja**, Budsłaŭskaj voł., Vialejskaha pav. Na druhi dzień Vialikadnia (13.IV) sioleta naša moładź, ad imia miascovaha hurtka ZMW, ładziła biełaruskaje pradstaŭleńnie. Stavili pjesku p. n. „Viasielle za pryhonam“ u 2 aktach z śpievami i z mnohimi biełaruskimi narodnymi prykazkami. Pjesku hetu napisała supolna miascovaja moładź (chłopcy i dziaŭčaty) na padstavie raskazaŭ starych ludziej. Da zahanaŭ hetaj novaj biełaruskaj pjeski treba zaličyć pieradusim bahasłavienstva maładych, jakoje napisana i vykanana było papolsku. Ihrali pjesku vyklučna dziaŭčaty, jakija vykonvali navat chłapcoŭskija roli. *M—č.*

— **Стахоўцы**, Пастаўскага пав. Цяжка жывецца нашым сялянам — цёмным беларусам. Ня маем мы ні свае школы, ні бібліятэкі, ані ніякай беларускай арганізацыі. Праўда, школа ў нас ёсьць, але чужая, польская, у якой беларускія дзеткі ня могуць навучыцца нават добра чытаць ды пісаць. Ведама, чужая мова для іх цяжкая і незразумелая. Дык і нічога дзіўнага, што з такой школы выходзіць моладзь наша бязграматнай і нясьведамай і дзеля гэтага часта пушчаецца ў распусту, пачынае піць гарэлку, курыць, гуляць у карты і інш. Сярод нашай аднак моладзі пачынае шырыцца ўжо і беларуская нацыянальная сьведамасьць. Чытаюць у нас ужо і беларускія часапісы, як „Шлях Моладзі“, „Бел. Крыніцу“ і інш і моладзь думае нават залажыць гурток БІГіК. *В. Б.*

— **Сенкевічы**, Косаўскага пав. У нас раней шырака працавала ТБШ і тады беларуская культурная праца разьвівалася памысна. Пасьля закрыцьця ў нашай старане гурткоў ТБШ, усё беларускае было прыціхшы. У 1932 г. было ў нас заложана „Кола Млодзежы Вейскай“, якое нічога карыснага нам не прынясло і ў 1935 г. увосені разваліласа. Цяпер беларуская нацыянальная сьведамасьць сярод нашага насельніцтва значна ўзрасла і нядаўна наша моладзь сарганізавала гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, якому ўсе мы жадаем плоднай працы. *Паляшук.*

— **Mojsičy**, Maładečanskaha pav. Moładź vioski Mojsičy prypazkova spatkałasia z časapisam „Šlach Moładzi“, jaki adrazu zrabiŭ na joj vialikaje ŭražańnie. Usie mocna zacikavilisia „Šlacham Moładzi“, pačali jaho pilna čytać, a praz heta vučycca i nacyjanalna ŭśviedamlacca. „Šlach Moładzi“ robić na našuju moładź vialiki ŭpłyŭ. Čytajučy jaho, moładź kidaje svaje błahija pryvyčki, jak naprykład pićcio harełki, ihru ŭ karty, a biarecca za samaadukacyju, vučycca biełaruskaj hramaty, śpiavaje rodnyja pieśni i ahułam pačynaje cikavicca biełaruskim adradženskim rucham. *M. Z—vič.*

— **Ляхавічы**, каля Баранавіч. 13.IV сёлета Ляхавіцкі Гурток Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры ладзіў беларускае прадстаўленьне. Ставілі п'есу „Амэрыка ў лазьні". Пасьля прадстаўленьня моладзь пад кіраўніцтвам М. Татарыновічанкі прапяяла гімн Інстытуту „Дзе чутны мовы нашай гукі", а пасьля адбываліся танцы. Прадстаўленьне ўдалося добра. Артысты-аматары ролі свае выканалі ўдала. Народу на прадстаўленьні было вельмі многа. У гэты самы дзень было наладжана моладзю беларускае прадстаўленьне ў в. Зарытава, Ляхавіцкай воласьці. *Тавінка.*

**Kurapol-Zapiaščy**, Pastaŭskaha pav. U nas sioleta zdaryŭsia strašny vypadak u žyćci adnej siam'i.

Moj susied Kola, chłapiec z poetyckimi zdolnaściami, ale krychu kaleka, bo mieŭ kasyja vočy, u minułym hodzie ažaniŭsia z pryhožaj dziaŭčynaj, jakuju mocna lubiŭ. Błahija adnak chatnija abstaviny, a pry tym mačacha Koli stvarali ŭ maładoj siamji častyja svarki, u vyniku jakich baćka Koli apisaŭ ziamlu na mačachu. Kola, jak kaleka, nia moh znajści sabie jakoj-niebudź pracy i apynuŭsia ŭ sapraŭdy žudasnym i biazvychadnym pałažeńni, katoraje davioło da strašnaj trahedyi. Bo voś Kola, budučy ŭ chacie tolki z žonkaj i 3 miesiačnym svaim dziciom, upaŭ u vialikuju rospač, a nia bačačy nidzie vychadu, schapiŭ chlebny vializarny nož i prabiŭ im žoncy hrudzi dy dva razy ŭdaryŭ joj u plečy. Paśla hetym samym nažom prabiŭ sabie brucha, z jakoha vypłyli kiški. Sabraŭšy kiški, joń zalez na pieč i tut, dastaŭšy spad belki brytvu, pierarezaŭ sabie horła i chutka ad hetaha pamior. Žonku adviaźli ŭ špital, a ŭ ludziej astaŭsia biedny mały chłopčyk.

Voś da čaho davodzić biednata i hora. *Susied.*

— **Harodniki**, Kucavickaj voł. Ašmianskaha pav. Pierachodziačy z miesca na miesca pa słužbach, kožny hod u inšaha haspadara, u inšaj vioscy, ci falivarku i pryhladajučysia da žyćcia białaruskaje moładzi, mahu śćvierdzić, što nastroj moładzi inšy ad nastroju starejšaha hramadzianstva i što bolšaść viaskovaje moładzi, heta element śviedamy ŭžo nacyjanalna i socyjalna i družna idzie da novaha, lepšaha, spraviadliviejšaha žyćcia. Moładź prysvojvaje sabie lozunh: „Naš los u našych rukach" i z niazłomnaj vieraj u hety skaz starajecca jaho ažyciović. Dzie jość intelihientnyja siły, katoryja nia stalisia renehatami, tam sprava jdzie lahčej, a dzie niama — tam słabiej, usiudy adnak vidać postup, imknieńnie da adradžeńnia svaje Baćkaŭščyny. Astajecca adno pažadać, kab moładź u pracy svajej nad pierabudovaj žyćcia jšła družna, zdabyvała viedu, vučyłasia biełaruskaje hramaty, u ładžańni hulniaŭ i viečaryn była kulturnaj, kab ćviorda stajała pry svaich imknieńniach, a tak-ža kab pamiatavała, što ŭ jednaści siła!

*Vaŭčok.*

---

## З ВЫДАВЕЦКАИ НІВЫ

**„Калосьсе“**—літаратурна-навуковы часапіс кніжка 2(6). Вільня 1936. Бач. 64. Выходзіць адзін раз у 3 месяцы. Цана кніжкі (ўжо зьніжана) 50 гр. Складка на год, таксама зьніжана – 2 зл. Адрас Рэд.: Вільня, Завальная вул. 1.

У кніжцы гэтай знаходзім наўперад 1-ю частку, вялікшага здаецца, твору М. Танка, п. н. „Нарач“. Вось-жа трэба сказаць, што твор гэны мясцамі, дзе паэт піша простай формай верша, вельмі прыгожы; там-жа, дзе ён піша новай формай — мутны, ды для масаў мала зразумелы, — інтэлігенцкі. Агулам творы Танка цяжкаватыя, ня такія напр. як Машары, у каторага з кожнага слова, з кожнага верша ясна прабіваецца думка.

Пасьля твораў Танка знаходзім творы Міхася Машары, Васілька, Н. Арсеньневай, А. Бярозкі і інш., над каторымі, з прычыны нястачы месца затрымлівацца ня будзем.

У аддзеле навукі і крытыкі зьмешчаны цікавыя артыкулы: А. Станкевіча, Ад. Саладухі, д-ра Ст. Грынкевіча, м-ра Аленьчука, Р. Шырмы, П. Сергіевіча і інш. У хроніцы-ж многа цікавых вестак з беларускага культурнага жыцьця.

Агулам зьмест другой кніжкі „Калосься“, так як і папярэдніх, цікавы і размавіты.

**Другі беларускі падручнік С. Паўловіча.** Усьлед за беларускім лемантаром „Першыя Зярняткі“, аб каторым мы пісалі ў прошлым нумары „Шляху Моладзі“, выйшаў ужо сёлета другі беларускі падручнік грам. С. К. Паўловіча п. н.: **„Першая навука Закону Божага з беларуска-славянскім букваром“**. Пасобнік для беларускае школы і сям'і. Выданьне другое, папраўлянае і дапоўненае. Прагледжана Віленскай Камісіяй па разгляду беларускіх падручнікаў Закону Божага. Варшава 1936. Бач. 164. Фармат 23×5,5. Выдана гэта кніжка коштам і з багаславенства Мітрапаліта Дзяніса.

У кніжцы гэнай наўперад зьмешчана букварная частка, далей-жа зьмест яе складаецца з наступных разьдзелаў: 1. Уступныя гутаркі аб Богу, 2. Навучаньне малітваў, 3. Штодзенныя малітвы. 4. Кароткая гісторыя Старога Завету. 5. Новы Завет: тут апісана жыцьцё Хрыста. 6. Праваслаўная вера. 7. З царкоўнай гісторыі. 8. Праваслаўная вера на Беларусі і ім падобныя.

З самых назоваў разьдзелаў відаць, што зьмест кніжкі ўложаны ўдала, дапаўняюць-жа яго стройныя і адпаведныя ілюстрацыі. Кніжка вытрымана ў духу праваслаўным і беларуска-нацыянальным. Ня гледзячы на пахібы ў беларускай мове, зьяўляецца яна вельмі цэнным укладам у беларускую рэлігійную праваслаўную літаратуру.

## CHRONIKA

### Z biełaruskaha žyćcia

**Ahulny Hadavy Schod BNK-tu.** 10.V. sioleta u pamieškańni BIHiK u Vilni adbyŭsia Ahulny Hadavy Schod Biełaruskaha Nacyjanalnaha Kamitetu, na jakim, paśla spravazdačy ŭstupajučych vykanaŭčych uładaŭ BNK-tu z dziejnaści za minuły hod i paśla udzialeńnia im absolutoryjumu, vybrany byli novyja ŭłady hetaje ŭstanovy. Novy Prezydyjum BNK-tu ciapier składajecca z nastupnych asob: inž A. Klimovič — staršynia, inž. L. Dubejkaŭski i advakat M. Škialonak — vicestaršyni, dr. St. Hrynkievič — skarbnik i red. J. Paźniak — sakratar. U Rev. Kamisiju vybrany: mgr. J. Šutovič, hram. St. Stankievič i red. J. Najdziuk.

Aprača hetaha Schod BNK tu pryniaŭ rezalucyju ab sučasnym pałažeńni biełaruskaha narodu, jakaja nažal nia moža być raspaŭsiudžvanaj, bo administracyjnyja polskija ŭłady jaje skanfiskavali.

**Z dziejnaści Vil. Addziełu BIHiK.** 3-ha h. m., dziakujučy starańniam Vil. Addziełu BIHiK, u pamieškańni Instytutu ŭ Vilni adbyłasia čarhovaja lekcyja Ks. V. Hadleŭskaha z cyklu historyi Biełarusi na temu: „Załataja para staradaŭnaj biełaruskaj litaratury (XVI stahodździe).“ 17 hetaha-ž miesiaca tam-ža adbyłasia lekcyja inž. A. Klimoviča na temu: „Haspadarski ład Biełarusi da kanca XVI stahodździa,“ a 24.V.-lekcyja advakata M. Škialonka ab kopnych sudoch na Biełarusi. Zacikaŭleńnie lekcyjami, nia hledziačy na viaśnianuju paru, vialikaje.

**10-tyja ŭhodki śmierci Kazimiera Svajaka.** Sioleta 6-ha traŭnia minuła 10 hod ad śmierci viedamaha biełaruskaha paeta Kazimiera Svajaka (Ks. K. Stepoviča). Z hetaj pryčyny za spakoj Jahonaje dušy 6 h. m. u kaściele śv. Mikałaja ŭ Vilni Ks. A. Stankievič adpraviŭ žałobnaje nabaženstva. — 6.VI sioleta ŭ Vilni na mahiłkach Rossa nad mahiłaj paeta adbudziecca adkryćcio pamiatnika.

**Sud.** 5 h. m-ca Vil. Haradzki Sud razhladaŭ spravu redaktara „B. Krynicy“ hram: J. Paźniaka, abvinavačanaha za prastupki presavyja. U vyniku sud zasudziŭ red. J. Paźniaka na 2 tydni aryštu i 50 zł. štrafu. Zasudžany padaŭ apelacyju.

**Kanfiskaty.** Vilenskija administracyjnyja ŭłady ŭ miesiacy traŭni sioleta skanfiskavali Nr. Nr. 21, 23 i 26 „Biełaruskaje Krynicy“ i Nr. 4 dziciačaha časapisu „Praleski.“

**Maturalnyja ekzaminy ŭ Vilenskaj Biełaruskaj Himnazii.** Sioletnija maturalnyja ekzaminy ŭ Vil. Bieł. Himnazii, da katorych było dapuščana 27 vučniaŭ i 2 eksternaŭ, skon-

*Рэдатуе Калегія.*

**Выдаюць: Я. Баргановіч і А. Шутовіч. Рэдактар Я. Найдзюк**

čylisia 28-ha traŭnia. Pry tym ekzaminy henyja zdali 22 vučni i 2 eksterny. Proźviščy hetych asob takija: 1) V. Jarmałkovič, 2) Z. Rahulanka, 3) L. Paul, 4) V. Karol, 5) A. Akaronka, 6) V. Hovar, 7) N. Dubavičanka, 8) A. Siečka, 9) H. Ivankievičanka, 10) Z. Hrycučanka, 11) V. Luściber, 12) I. Łamieka, 13) M. Čylijevič, 14) N. Tarasiška, 15) H. Pieršukievičanka, 16) U. Pańko, 17) P. Hirys, 18) V. Panahajba, 19) Uł. Kosaŭski, 20) A. Darafiejčyk, 20) J. Praśniak, 22) Chv. Zdanovič, 23) M. Minkievič i 24) Padahiel. — Usim nazvanym vyšej asobam žadajem udačy ŭ dalejšaj navucy i pracy.

Z BSRR. Pavodle „W. B.," sioleta prypadajuć 100-ja ŭhodki załažeńnia viedamaha na usim śviecie Instytutu Sielskaje Haspadarki u Hory-Horkach i 15-ja ŭhodki załažeńnia Biełaruskaha Universytetu ŭ Miensku. Dziela naładžańnia śviatkavańnia hetych jubilejaŭ biełaruskich navukovych instytucyjaŭ, savieckija ŭłady zarhanizavali adpaviedny kamitet.

Hrupa navukovych pracaŭnikoŭ Instytutu Historyi Bieł. Akademii Navuk u Miensku pad kiraŭnictvam akad. Ščarbakova zakončyła pracu: „Historyja Biełarusi ŭ dakumantach i matarjałach" u dvuch tamoch. Pieršy tom, što ŭžo drukujecca, maje 40 arkušoŭ i abyjmaje peryjad ad staražytnych časoŭ da kanca XVIII-ha stahodździa, a druhi tom abyjmaje paru z XVIII stah. da 1917 h.

## U BIEŁ. STUDENTAŬ

— 25.IV sioleta ŭ Bieł. Studenckim Sajuzie adbyłasia dyskusija na temu: „Ci jość navukovyja dokazy isnavańnia Boha." Tezy henaje baranili, referujučy navukovyja dokazy isnavańnia Boha, studenty: V. Papucevič i J. Babok. Suproć-ža isnavańnia Boha vystupaŭ tolki stud. V. Tumaš. Jasna, pieramoha ŭ hetaj dyskusii była pa staranie V. Papuceviča i J. Babka. — Treba pry tym zaznačyć, što da vystupleńniaŭ u henaj dyskusii hatovilisia jašče i inšyja našyja damarosłyja biazbožniki, jakim adnak arhumanty V. Papuceviča i J. Babka vidavočna „zaniali duch." Tak, siahońnia ŭžo nia možna vychadzić u pole z sparachniełym bahažom naiŭnych brašurak!

— 17.V siol. Bieł. Stud. Sajuz ładziŭ siabroŭskuju vandroŭku ŭ Verki kala Vilni.

— 16.V siol. u BSS stud. V. Tumaš čytaŭ lekcyju na temu „Deficytovaść t. zv. „Kresów Wschodnich."

## U BIEŁ. SKAŬTAŬ

— Pry Vilenskaj Biełaruskaj Himnazii paŭstała pieršaja žanockaja družyna biełaruskich skaŭtak u Vilni.

— Kiraŭnik addziełu biełaruskich skaŭtaŭ „Sokały" ŭ Vilni — Kacurski — niadaŭna končyŭ vodnyja skaŭckija kursy i maje zamier arhanizavać vodny addzieł biełaruskich skaŭtaŭ u Vilni.

## USIAČYNA

— 15.V siol. u Polščy nastupiła žmiena ŭradu. Urad M. Kaściałkoŭskaha ŭ hety dzień padaŭsia ŭ adstaŭku, novy ŭrad utvaryŭ hien. F. Sławoj-Składkoŭski, katory budzie taksama ministram unutranych spraŭ. Skład novaha ŭradu ad uradu papiaredniaha faktyčna vielmi mała roźnicca, bo ŭvajšli ŭ jaho tolki dva novyja ministry: V. Graboŭski — ministr spraviadlivaści i A. Roman — ministr promysłu i handlu. Dasiulešni premjer Kaściałkoŭski ŭ uradzie hien. Sławoj-Składkoŭskaha zaniaŭ pasad ministra hramadzkaj apieki. Pamima taho, što personalnyja źmieny ŭ uradzie małyja hazety pišuć, što novy ŭrad budzie „ŭradam silnaj ruki".

— Italijancy akančalna raźbili ŭžo abisynskuju armiju, zaniali Addis-Abebu i svajho karala Emanuela abvieścili tak-ža carom Abisynii. Dasiulešni abisynski car-negus prymušany byŭ pakinuć svoj kraj i vyjechaŭ z svaimi pamocnikami zahranicu. Ciapier jedzie jon u Eŭropu, kab tut, u Lizie Narodaŭ, asabista baranić pravoŭ Abisynii da samastojnaści. Liha-ž Narodaŭ, jak viedama, pakulšto ničoha dobraha dla Abisynii nie zrabiła. Pieramahli italijancy abisyncaŭ dziakujučy tolki tamu, što ŭžyvali hazaŭ, praciŭ jakich abisyncy byli biezbaronnymi. Da ciapier adnak na niezaniataj čaści Abisynii ŭraduje abisynski ŭrad i da ciapier abisyncy zmahajucca z italijancami.

— U Francyi niadaŭna adbylisia vybary ŭ parlamant. Pieramohu ŭ ich zdabyŭ „Narodny Front", ci jnakš — levyja partyi.

— U Palestynie araby bjuć žydoŭ, arhanizujučy na ich vialikija pahromy, u časie jakich mnoha ŭžo žydoŭ było zabitych. Araby damahajucca hetak strymańnia ŭjezdu i asialańnia žydoŭ u Palestynu, katoruju ŭvažajuć za svoj kraj.

---

## PAŠTOVAJA SKRYNKA

Vaŭčku: Prośbu spaŭniajem, karespandencyju, krychu skaraciŭšy, jak bačycie, drukujem.

Стахоўскаму: Вершы слабыя, да друку не падходзяць і радзім Вам больш іх ня пісаць. Карэспандэнцыю надрукуем.

М. Ю—р—су: Вершы слабыя. Стылістыкі выслаць ня можам. Можаце яе купіць у кожнай кнігарні. Радзім Вам пазнаць дабра беларускую граматыку і правапіс і пробаваць пісаць прозай. Просьбу будзем старацца выканаць, як толькі пазволіць час.

М. Блізкаму: Вершы пісаць гэта ня значыць падабраць толькі словы так, каб яны рымаваліся. Вашы вершы слабенькія, больш працуйце над імі і над сабой.

Сымону: Атрымалі, шчыра дзякуем. Пакульшто аднак не надрукуем, бо цяпер вясна і аб хаўтурных абрадах аж страшна думаць. Артыкул Ваш адкладаем да восені.

А. Міхаль-ку: Просьбу спаўняем і „Асновы Грамадзкае Гаспадаркі" выслалі.

Я. Рамя-вічу: Прысланыя вершы слабыя, але паэтыцкія здольнасьці ў Вас ёсьць, дык пішыце і больш працуйце над сабой, чытаючы як найбольш прыгожае беларускае літаратуры.

Горну: Прысланыя вершы слабаватыя. хоць здаецца, каб Вы далажылі да іх крыху больш працы, маглі-б быць лепшымі. Адзін з іх папраўішы надрукуем.

А. Жуку: Атрымалі, дзякуем. Просьбу спаўняем. Вершы гэтым разам чамусьці слабыя, але адзін з іх друкуем.

З. К.: Зборнікі вершаў атрымалі, у меру магчымасьці будзем іх друкаваць, пачынаючы ўжо ад гэтага нумару.

Z. Kienčancy: Atrymali, dziakujem. Adzin Vaš vierš, jak bačycie, drukujem. Źviarnicie, kali łaska, uvahu na papraŭki. Bolš čytajcie biełaruskich knižak, asabliva-ž vieršaŭ našych klasykaŭ: Kupały, Kołasa, Bahdanoviča.

J. Kurdzionku: Vierš słabieńki, proza Vam lepš udajecca i Vy lepš pišecie joju. Adnu Vašu karespandencyju, jak bačycie, drukujem u hetym numary, a druhuju źmieścim u numary nastupnym.

— Adkaz na piśmy ŭ spravie deklaracyi pravoŭ maładoha pakaleńnia Polščy budzie dany ŭ nastupnym numary „Šl. Mł.".